# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 11 (186)
лістапад 2017

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:



**Чытайце, пішыце, каментуйце на абноўленым сайце ЗБС "Бацькаўшчына" zbsb.org!**




# ЗБС "Бацькаўшчына": тое, што ў гонар Тарашкевіча названыя вуліца і беларускі ліцэй у Бельску-Падляскім – справядліва

Прапанова Інстытута нацыянальнай памяці (Варшава) у межах працэсу "дэкамунізацыі" перайменаваць вуліцу і ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляскім выклікала глыбокую заклапочанасць МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" і змусіла накіраваць звароты да Міністэрства замежных спраў Польшчы, у адміністрацыю Падляскага ваяводства і ў Інстытут нацыянальнай памяці ў Варшаве.

У зваротах выказана павага да справы "дэкамунізацыі" і спадзеў, што калісьці падобная тэндэнцыя таксама будзе назірацца і ў Беларусі, але разам з тым падкрэсліваецца важнасць асобы Браніслава Тарашкевіча (між іншага, перакладчыка "Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча і дэпутата польскага Сойма ў 1920-х гадах) для сучаснай Беларусі. Канфлікт вакол перайменавання вуліцы і ліцэя можа стаць доўгатэрміновай "ідэалагічнай мінай" для беларуска-польскага добрасуседства і параніць нацыянальна арыентаваных дэмакратаў-беларусаў не толькі ў краіне, але і ва ўсім свеце. Такім канфліктам ахвотна скарыстаюцца на сваю карысць геапалітычныя нядобразычліўцы Рэспублікі Польшча і Рэспублікі Беларусь.

Справа ў тым, што нягледзячы на лідарства ў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе і сяброўства ў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, Тарашкевіч разам з усімі паплечнікамі па заходнебеларускім руху быў арыштаваны Саветамі і ў 1938 годзе закатаваны НКВД. Трагічны лёс, складаны гістарычны кантэкст перыяду сталінскіх рэпрэсій і вялікі даробак Браніслава Тарашкевіча ў справе змагання супраць дыскрымінацыі беларусаў Заходняй Беларусі ў Другой Рэчы Паспалітай прывялі ў выніку да таго, што сам ён зрабіўся інтэлектуальным сімвалам змагання за нацыянальныя правы беларусаў, а "тарашкевіца" – першая беларуская граматыка ягонага аўтарства – сімвалам антысавецкасці і антыкамуністычнасці. Ад 1980-х гадоў нацыянальныя эліты выкарыстоўваюць яе як своеасаблівы пратэст супраць камуністычнай і посткамуністычнай палітыкі прыгнёту нацыянальнай культуры.

Асоба Тарашкевіча належыць польскай і беларускай культурам, шануецца этнічным беларускім жыхарствам у Падляшшы. Тое, што ў гонар Тарашкевіча названыя вуліца і беларускі ліцэй у Бельску-Падляскім – справядліва.

ЗБС "Бацькаўшчына" верыць, што паспяховая еўрапейская Польшча, якая сёння вельмі шмат добрага робіць для падтрымкі дэмакратычнай супольнасці ў Беларусі (згадаем тут, найперш, праграму імя Каліноўскага, тэлеканал БелСат і шмат іншых праграм для Беларусі) і адначасова спрые на дыпламатычным узроўні паляпшэнню стасункаў Рэспублікі Беларусь з Еўрасаюзам, у пытаннях гістарычнай памяці нашых абодвух сяброўскіх народаў таксама захавае цвярозы і разумны падыход.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны

# МІЖНАРОДНАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ ПРЭМІЯ ЗА "АНЁЛАЎ, ЧАРЦЕЙ І КАБЕТ"

Пісьменнік Павел Ляхновіч, новаабраны сябра Рады ЗБС "Бацькаўшчына", атрымаў прэстыжную Міжнародную літаратурную прэмію імя Юзафа Лабадоўскага за перакладны зборнік апавяданняў вядомага польскага пісьменніка Збігнева Уладзімежа Фрончака "Анёлы, чэрці і кабеты".

Лаўрэатам гэтай прэміі таксама стаў Пётр Кралюк, прарэктар Астрожскай акадэміі (Украіна), у сценах якой 24 кастрычніка і адбылася цырымонія ўзнагароджання. Удзел ва ўрачыстасцях бралі польскія пісьменнікі, дзеячы ўкраінскай культуры і дыпламаты.

Падчас узнагароджання спадар Павел выказаў падзяку аўтару апавяданняў і сябрам камісіі, а таксама выказаў спадзеў на тое, што кніга станецца чарговай цаглінай ва ўмацаванні сяброўства паміж народамі Беларусі і Польшчы.

Зборнік "Анёлы, чэрці і кабеты" – плён сямігадовай супрацы пісьменніка Паўла Ляхновіча з аўтарам апавяданняў. Шмат гадоў таму спадар Павал адгукнуўся на прапанову паэткі Ніны Мацяш перакласці на беларускую мову два апавяданні папулярнага ў Польшчы пісьменніка з Любліна, але ўцягнуўся, і прапанаваная да ўвагі чытачоў кніга ўтрымлівае аж




Фрончак, З.
Анёлы, чэрці і кабеты: апавяданні / Збігнеў Уладзімеж Фрончак. – Брэст: Альтэрнатыва, 2017. – 224 с.
ISBN 978-985-521-593-7.



шэсцьдзясят твораў, якія сваёй формай нагадваюць прыпавесці.

Выданне зборніка апавяданняў Збігнева Уладзімежа Фрончака стала магчымым дзякуючы спрыянню гарадской адміністрацыі горада Любліна (Польшча), і прысвечанае 700-годдзю горада.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" ад усёй душы віншуе спадара Паўла Ляхновіча і зычыць яму новых перамог.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

## БЕЛАРУСЫ ВАРШАВЫ АДЗНАЧЫЛІ ДЗЯДЫ

Аб'яднанне "Беларуская нацыянальная памяць" зладзіла сустрэчу на варшаўскіх могілках Павонзкі.



Удзельнікі ўшанавалі памяць выбітных дзеячаў мастацтва і навукі, якія сваёй дзейнасцю спрыялі развіццю беларускага і польскага нацыянальных рухаў.

"Такія сустрэчы вельмі цікавыя, бо, акрамя таго, што мы наведваем магілы, Зянон Станіслававіч распавядае пра тую эпоху, у якую жылі нашы героі, пабач з чыімі магіламі мы сёння стаім, як яны тут апынуліся, што яны зрабілі. Тады будзе жыць Беларусь, калі мы будзем памятаць нашы карані, будзем шанаваць іх", – зазначыў арганізатар спаткання Анатоль Міхнавец

Пра інфармацыйнае забеспячэнне сустрэчы дбаў лідар беларускага адраджэння Зянон Пазьняк: "Гэта свята трэба шанаваць. Трэба, каб гэта быў выходны дзень у Беларусі. Каб людзі маглі з годнасцю ўшанаваць сваіх продкаў. Наш народ моцна шануе продкаў. Гэта па-рознаму выяўляецца, але ў ментальнасці нашых людзей пашана да памерлых ёсць".

У сустрэчы на варшаўскіх Павонзках прыняло ўдзел некалькі дзясяткаў чалавек пераважна маладога веку.

**Эдуард Жолуд, "Беларускае Радыё Рацыя"**

## БЕЛАРУСЫ АДЗНАЧЫЛІ ДЗЯДЫ Ў ШВЕЦЫІ




4 лістапада прадстаўнікі згуртавання "Беларусы Швецыі" па традыцыі выправіліся на могілкі стакгольмскага прадмесця Густаўберг.

Там спачывае Васіль Лукашык (1911–1975) – выхаванец Віленскага ўніверсітэта, былы дзеяч Грамады і Таварыства беларускай школы, заснавальнік і кіраўнік першай беларускай суполкі ў Швецыі "Беларуская грамада" (1948–1975).

Як заўсёды, Андрэй Катлярчук распавёў пра цікавыя факты с жыцця Васіля, які спалучаў працу на вядомай фабрыцы фарфору і сантэхнікі Gustavsberg AB з актывісцкай дзейнасцю.

**Ірына Азаранка, "Беларусы Швецыі"**

навіны "Будзьма!"

## "Пяцісотгоднасць" у Маладзечна

Сустрэча з літаратарамі Уладзімерам Арловым і Ігарам Крэбсам адбылася 3 лістапада ў арт-прасторы "Наталь" у межах кампаніі "Будзьма беларусамі!" і акцыі "Пяцісотгоднасць". У. Арлоў прачытаў фрагменты сваіх эсэ і згадаў, як быў затрыманы на брытанскай мяжы па падазрэнні ў сувязях з Ірландскай Рэспубліканскай Арміяй, а таксама прадставіў публіцы кнігі "Танцы над горадам" і "Айчына: маляўнічая гісторыя. Ад Рагнеды да Касцюшкі". Перакладчык казак Вільгельма Гаўфа, вершаў Генрыха Гайне і "Прыгодаў барона Мюнхгаўзэна" Ігар Крэбс расказаў пра гэтага вандроўніка і авантурыста і зачытаў некалькі гісторый са сваёй перакладной кнігі. У. Арлоў вызначыў самыя арыгінальныя і цікавыя пытанні чытачоў, а І. Крэбс правёў конкурс па перакладзе рэдкіх беларускіх слоў. Пераможцы атрымалі падарункі ад кампаніі "Будзьма беларусамі!".

## Зона не/адчужэння: дыскусія ў Мазыры

23 лістапада ў Мазыры прайшло ток-шоў "Зона не/адчужэння", зладжанае грамадскай культурніцкай кампаніяй "Будзьма беларусамі!" і цэнтрам даследавання грамадскага кіравання "Сімпа". Гаворка вялася пра зону радыяцыйнага забруджання ў выніку Чарнобыльскай катастрофы.

**Дзяніс Рабянок** параўнаў Чарнобыль з Другой сусветнай вайной, якая падзяліла жыццё на "да" і "пасля". Але вырасла пакаленне, для якога слова "Чарнобыль" нічога не значыць. Праз зніжэнне ўвагі да праблемы цяпер не дыскрымінуюцца перасяленцы з забруджаных раёнаў і жыхары Гомельшчыны. Але забруджанне нікуды не знікла за трыццаць гадоў. Знікненне з эфіру тэмы катастрофы сведчыць пра іншыя прыхаваныя працэсы.

**Уладзімір Целяпун**, ліквідатар ЧАЭС, праваабаронца, распавёў пра "Марш на Маскву" (1990). Галоўнай мэтай мітынгу на Краснай плошчы было звярнуць увагу кіраўніцтва СССР на становішча пацярпелых рэгіёнаў. Сярод выступоўцаў быў Алесь Адамовіч. Марш прымусіў улады выканаць патрабаванні па абароне насельніцтва і прыняць шэраг заканадаўчых актаў, але сёння тая праца змарнаваная, скасаваны статус ліквідатараў.

**Павал Наздра**, грамадскі актывіст, прыводзіў статыстычныя звесткі: аб заворванні забруджаных земляў, пазбаўленні тэрыторый статусу забруджаных, спосабе зрабіць радыеактыўнае малако ў межах нормы для продажу і іншых паказніках.

Не абмінулі ўвагай грамадскую ініцыятыву, якую ў дзевяностых гадах ажыццявілі, працуючы разам, супольнасці з Беларусі і заходніх краін – сотні дзяцей наведалі краіны Еўропы, дзе іх прымалі сем'і. Той досвед вельмі паўплываў на фармаванне светапогляду тых дзяцей.

Паразважалі пра нязначнае адлюстраванне трагедыі ў творчасці: апрача "Чарнобыльскай малітвы" Святланы Алексіевіч цяжка адразу штосьці прыгадаць.

Так, звычайным грамадзянам не пад сілу скіраваць дзяржаўную палітыку ў іншы бок. Але зноў і зноў уздымаць тэму Чарнобылю, каб ніхто не змог рабіць выгляд, быццам праблема вычарпаная, – рэальна. Нагадваць настойліва, каб тыя, хто ўважае Чарнобыль за чужы і далёкі, зразумелі, як шмат залежыць ад іх.

**Больш навінаў чытайце на budzma.by**

**кніга**

# ТРАЎМАТЫЧНАЯ ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА Ў ХРОНІКАХ БІНІМА

Як зрабіць так, каб арганізацыя, якую ты ствараеш, праіснавала 65 гадоў? Фактычна без сродкаў, без памяшкання, без дзяржаўнай падтрымкі. З вельмі слабым жаданнем сябраў плаціць складкі.




Гардзіенка Н., Юрэвіч Л.

Хронікі БІНіМу: Гісторыя Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў дакументах, лістах і ўспамінах / Н. Гардзіенка, Л. Юрэвіч; прадм. В. Кіпель. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 352 с.: іл. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 33).

ISBN 978-985-7180-34-9.

Кніга Наталл Гардзіенкі і Лявона Юрэвіча "Хронікі БІНіМу" – 33-я ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" – прысвечаная 65-гадовай гісторыі Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. Пра дзейнасць адной з найстарэйшых існых сёння эміграцыйных інстытуцый распавядаюць лісты, успаміны, пратаколы і іншыя дакументы з архіваў двух старшыняў – Вітаўта Тумаша і Вітаўта Кіпеля. Праблемы і дасягненні БІНіМу, умовы працы і роля асобаў – усё гэта знайшло сваё адлюстраванне ў кнізе, дапоўненай бібліяграфіяй альманаху "Запісы" і біяграфічным даведнікам.

Ды і сябры тваёй арганізацыі толькі этымалагічна маюць паміж сабой прыяцельскія стасункі, а на справе часам здаецца, што неўзабаве ўсяму канец. Гісторыя Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, апісаная Наталляй Гардзіенка і Лявонам Юрэвічам у кнізе "Хронікі БІНІМ", шмат у чым павучальная. Але, што важна, мае аптымістычны фінал.

Траўматычная "біяграфія" беларускай паваеннай эміграцыі, шмат у якіх аспектах раскрытая менавіта дзякуючы згаданым суаўтарам, наогул не выглядае чымсьці "спецыфічна эміграцыйным". Сюжэты з няпростым стварэннем і функцыянаваннем грамадскіх арганізацый, цэркваў, палітычных партый беларускай дыяспары на чужыне мелі цэлую кучу непамысных спадарожных акалічнасцяў. Але траўматычнасць паўставання гэтых інстытуцый была ў пэўным сэнсе наканаваннем з прычыны таго, што ўсё гэта мела вельмі слабую традыцыю ў беларускім мінулым. Бо чарпануць да вайны беларускай дэмакратыі не было адкуль – засыпалі чалавечымі косткамі яе крыніцы.

Безумоўна, у свядомасці стваральнікаў БІНІМа быў прыклад іншых народаў, якія яшчэ да вайны заклалі на эміграцыі свае навуковыя інстытуцыі і нават акадэміі. Беларусы ж маглі разбудоўваць сваю акадэмію, арыентуючыся на Інбелкульт 1920-х (эмігранты-"ўсходнікі") альбо на культурніцкія арганізацыі міжваеннай Вільні ("заходнікі"). Ці хутчэй нават на вобраз гэтых інстытуцый, чым на іх саміх.

Што дапамагала БІНІМу набыць устойлівасць, дык гэта трывалая, бескарыслівая самаахвярнасць паасобных працаўнікоў інстытута. Імёны іх вядомыя: Антон Адамовіч, Наталля Арсеннева, Вітаўт Тумаш, Вітаўт Кіпель і Янка Запруднік. Менавіта гэтыя пяць арганізатараў здолелі згуртаваць даволі разасобленую і раздробленую пасляваенную беларускую эміграцыю на аснове больш ці менш апалітычнай навукова-культурніцкай дзейнасці. Апалітычнай унутрана, але палітычнай навонкі, бо зразумела, што арганізацыя была нацыянальна-арыентаванай і антысавецкай. З іншага боку, антысавецкасць яе вельмі часта палягала ў тым, каб падаваць чытачу інакшы, адрозны ад савецкага, варыянт беларускай гісторыі а таксама друкаваць навуковыя і культурніцкія тэксты без ідэалагічнага фальшу. Перадусім я маю тут на ўвазе асноўны часопіс інстытута – "Запісы БІНІМ", які паспяхова выдаецца дагэтуль.

Але адкаснемся ад філасофстванняў і звернемся да кнігі.

Як і заўсёды, калі згадваюцца прозвішчы Гардзіенка і Юрэвіч, кніга перарастае ў нешта большае за звычайны тэматычны блок сшытых і пераплеценых старонак. Тэма не можа тут разгортвацца толькі ў адным ключы. "Хронікі БІНІМ" толькі часткова з'яўляюцца гісторыяй арганізацыі, выкладзенай храналагічна, ад часу заснавання да цяперашчыны. Кніга моцна стэрэаскапічная, з самымі рознымі падыходамі.

Па-першае, аўтарскаму тэксту заўсёды спадарожнічае цытата з архіўнага дакумента, пераважна эпісталярнага альбо стэнаграфічнага. Гэта стварае ў чытача эфект прысутнасці.

Па-другое, яшчэ адным, схаваным трэцім аўтарам кнігі з'яўляецца патрыярх эміграцыі і, у апошнія трыццаць пяць гадоў, кіраўнік БІНІМа Вітаўт Кіпель. Па кнізе рассыпаныя некалькі дзясяткаў яго дапаўненняў і ўдакладненняў што да асноўнага тэксту: рэмаркі, тлумачэнні, каментары ў самым шырокім значэнні гэтага слова. Гэтым усё прамоўленае верыфікуецца яшчэ раз, і сведчанні вельмі надзейныя.

Па-трэцяе, "Хронікі БІНІМ" – гэта архіўны даведнік, гайд па старых дакументах арганізацыі. Асобным раздзелам у кнізе пададзеныя ўсе даступныя новаму даследчыку фонды, з якіх можна скласці сваю гісторыю. Альбо дапоўніць расказаную.

Па-чацвёртае, гэта біяграфічны даведнік, дзе пададзеныя жыццяпісы ўсіх кіраўнікоў, супрацоўнікаў і сябраў арганізацыі.

Па-пятае, гэта бібліяграфічны даведнік па асноўным выданні БІНІМа – "Запісах". Усе нумары з 1952 па 2016 год распісаныя паартыкульна, з нумараваннем старонак – так, каб будучаму студэнту ці аспіранту, якія захочуць даследаваць беларускую эміграцыю, не трэба было ісці ў сховішчы і бібліятэкі гартаць старыя падшыўкі. Цяпер усе "Запісы" пад рукой.

Па-шостае, гэта не толькі аўтарскі наратыў Гардзіенка, Кіпеля і Юрэвіча, але і погляд збоку, бо чытач знойдзе тут успаміны і сведчанні пра БІНІМ "з усіх краёў, з усіх народаў свету": ад губернатараў штата і прафесараў Оксфарда і Гарварда да дырэктара сярэдняй школы горада Міёры.

Такая шматслойнасць кнігі (дадаткі фактычна займаюць палову яе аб'ёму) цікавая нават і важнымі лірычнымі адступленнямі, у якіх хаваюцца каштоўныя, як дыяменты, дэталі. Пра сваю працу ў Нью-ёркскай публічнай бібліятэцы (NYPL) успамінае Вітаўт Кіпель:

"У бібліятэцы бываў ён [Францішак Кушаль] зранку, а гадзіне першай ці другой сыходзіў, ішоў на працу. Адзін ягоны побыт мне прыпамінаецца асабліва. Зайшоў Кушаль да мяне ў навуковы аддзел, сказаў, што сёння працаваць з бібліятэчным матэрыялам не зможа – вельмі ўсхваляваны й хацеў бы са мной выйсці разам паснедаць. Я згадзіўся – бачыў, што яму сапраўды неспакойна. І вось, калі мы замовілі сняданак у бібліятэчнай кафетэрыі, Францішак Кушаль прызнаўся ў прычыне свайго хвалявання: два дні таму ён чытаў раман Уладзіміра Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім", і што твор зрабіў на яго такое моцнае ўражанне, што не можна ні на чым сканцэнтравацца! Тут жа ён мне "загадаў" твор прачытаць ды праз колькі дзён зноў спаткацца, каб раман прадыскутаваць. Гэтак яно й было".

Гэта – наконт таго, якімі далёкімі былі эмігранты ад Беларусі. Ды не, якраз звязаныя яны былі з ёю, намёртва. І 70-гадовы стары, якога, за сукупнасцю ўражанняў за жыццё, наўрад ці назавеш рамантыкам, рэагуе на раман Караткевіча як 15-гадовы школьнік. Ды і наогул – чым яшчэ заняцца ў "Вялікім яблыку" на Пятай авеню ў сярэдзіне шасцідзясятых, як не абмеркаваннем "Каласоў"?

Менавіта ў гэтай адсутнасці мяжы бачыцца прычына таго, як лёгка шматтысячастаронкавы беларускі тэкст эміграцыйнага жыцця, выведзены з архіваў вышэйзгаданымі суаўтарамі, кладзецца сёння на вока чытачу. Ён – свой. Цалкам зразумелы і блізкі. Можа быць, нашмат больш зразумелы, чым гісторыя самой Беларусі.

**Ціхан Чарнякевіч, "Будзьма беларусамі!"**

навіны

# РАСІЙСКІМ ТУДАЎЛЯНАМ ПАЧАЛІ ЧЫНІЦЬ ПЕРАШКОДЫ ПАСЛЯ ПЕТЫЦЫІ ЗА ПРЫЗНАННЕ ІХ БЕЛАРУСАМІ

Шэраг жыхароў Цвярской вобласці Расіі адносіць сябе да этнаграфічнай групы тудаўлян – расійцаў беларускага паходжання. У лютым яны арганізавалі петыцыю з просьбай прызнаць іх беларусамі паводле нацыянальнасці і перастаць запісваць “рускімі”. Пасля гэтага на іх “пачалі наязджаць”.



Кіраўнік суполкі тудаўлян Аляксандр Цеханоўскі паведаміў “Свабодзе”, што пасля пачатку збору подпісаў на тудаўлян пачаўся ціск. Праз тэлефон яму асабіста пачалі паступаць пагрозы (і працягваліся, нават калі ён змяніў нумар), ягоны дом у Аленінскім раёне ўночы разграмілі невядомыя. Суполку тудаўлян “УКантакце” выдалілі (ужо сабралася новая), таксама скралі і выдалілі асабістую старонку Цеханоўскага. У мясцовай прэсе, адзначае Цеханоўскі, з’явіліся “антыбеларускія артыкулы”, у якіх сталі казаць пра “беларускіх нацыяналістаў” і “забаўны факт перапісвання гісторыі”.

Самога Цеханоўскага звольнілі з працы, па яго словах, “сказаўшы, што мая пазіцыя і мае погляды іх не задавальняюць”. Ён заяўляе, што яму пагражалі нават крымінальнай справай, калі ён не сыдзе, не забраўшы апошні заробак. Пазней пры прыёме на новую працу ён “сутыкнуўся з антыбеларускай рыторыкай”.

“Камусьці, відавочна, моцна перашкаджае тое, што мы робім, але, нягледзячы на гэта, мы не пакінем нашую барацьбу за нашае мінулае і нашую агульную будучыню”, – кажа Цеханоўскі.

### Кіраўнік раёна: ціск – “абсалютны абсурд”, а тудаўлянамі сябе ніхто не лічыць



Кіраўнік Аленінскага раёна Цвярской вобласці Алег Дубаў кажа “Свабодзе”, што пра ціск на тудаўлян не чуў – называе гэта “поўным трызненнем” і “абсалютным абсурдам”. Раён спакойны, у ім паважаюць любыя нацыянальнасці, кажа Дубаў, але такога народа, як тудаўляне, цяпер фактычна няма: “Зразумела, што жыў народ тудаўлян на тэрыторыі нашага раёна, на поўначы і паўночным усходзе з цэнтрам у сяле Малады Туд – буйное сяло, трэці населены пункт раёна паводле насельніцтва, – расказвае Дубаў. – Яны жылі ў XVIII–XIX стагоддзях, але народ асіміляваўся з расійскім насельніцтвам.

На жаль, калі быў апошні перапіс насельніцтва ў 2010 годзе, варыянт нацыянальнасці “тудаўляне” быў, але людзі сябе тудаўлянамі не лічаць і не пазначаюць (у перапісным лісце не было выбару з розных нацыянальнасцяў, нацыянальная прыналежнасць запісвалася ўручную перапісчыкам. – РС). Мне шкада, што народ асіміляваўся, бо гэта самабытная культура – добра было бы, каб яна захавалася, але гэта, на жаль, не так”.

У той жа час у Аленінскім раёне пачаўся канфлікт мясцовых жыхароў з раённымі ўладамі праз планы разьмясьціць у раёне звалку прамысловых адходаў. На масавым сходзе, які ў прэсе параўноўвалі з Майданам, мясцовыя патрабавалі адстаўкі Дубава. Сцвярджалася нават, што невядомыя павесілі гранату на ягоны плот.

**АА, “Радыё Свабода”**



## 60-ГОДДЗЕ САБОРУ БАПЦ АДЗНАЧЫЛІ Ў БРУКЛІНЕ

3 лістапада споўнілася 60 гадоў з дня першай царкоўнай службы ў Саборы Беларускай Аўтакефальнай Царквы Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

З гэтай нагоды 5 лістапада, адбылося святочнае архірэйскае набажэнства з удзелам Уладыкі Святаслава.

Пасля набажэнства прыхаджане сабраліся ў грамадскай зале Сабору. Пра гісторыю парафіі і набыцця будынку царквы расказаў старшыня парафіяльнай рады Расціслаў Гарошка.

Пра больш далёкую гісторыю беларускай царквы за часамі ВКЛ расказаў Уладыка Святаслаў. Таксама былі зачытаныя віншавальныя лісты ад Івонкі Сурвіллы, Зянона Пазьняка, святара Леаніда Акаловіча. Кульмінацыйным момантам святкавання стаў аўдыязапіс таго самага першага набажэнства, зроблены радыё “Вызваленне”. Гімн “Магутны Божа” ўсе прысутныя ўзрушана спявалі разам з царкоўным хорам, у якім удзельнічалі бацькі і дзяды шмат каго з сённяшніх прыхаджан.

Напрыканцы святочнай сустрэчы перад прысутнымі выступілі беларускія выканаўцы Валянціна Пархоменка і Алесь Казак.

**Віктар Дудараў, “Новы Час”**

## ВЫНІКІ 45-ГА АГУЛЬНАГА З’ЕЗДУ ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

12 лістапада ў Беларускім грамадска-рэлігійным цэнтры ў Таронта адбыўся 45-ы звычайны агульны З’езд Згуртавання беларусаў Канады.

Дэлегаты З’езду выслухалі і абмеркавалі справаздачы Галоўнае Управы ЗБК, яго аддзелаў, Скарбніка і Нагляднае Рады. З’езд вызначыў асноўныя кірункі дзейнасці арганізацыі на наступныя тры гады і абраў новыя кіраўнічыя і кантрольныя органы арганізацыі.

На пасаду старшыні Галоўнае ўправы абраная сп. Алена Лявончанка. У склад новае Галоўнае ўправы ўвайшлі Дзмітры Эльяшэвіч (сакратар), Вера Еўдакімчык (скарбнік), а таксама Пётра Мурзёнак, Сяргей Мазгавы, Павал Малышэўскі і Надзея Дробіна.

На пасаду Старшыні Нагляднае Рады абраны Руслан Качаткоў. У кантрольны орган ЗБК таксама ўвайшлі Аляксандр Каралькевіч (Сакратар) і Наталія Баркар (Сябра).

**Галоўная Управа ЗБК**

гутарка

# ПЁТР РУДКОЎСКІ ПРА СТУДЭНЦКІ ПЛАГІЯТ І ВАРТЫ ПЕРАЙМАННЯ ПОЛЬСКІ ПАТРЫЯТЫЗМ

Калі мы дамаўляліся пра сустрэчу, спадар Пётр адразу запрасіў да сябе ў госці. У невялікай здымнай мінскай кватэры не самай сонечнай лістападаўскай суботай ён і распавёў пра падабенства працы ў Беларусі і Польшчы, схільнасць усходнееўрапейскіх студэнтаў да міжмоўнага плагіяту і тое, чаму ўсё ж такі беларусам варта пераняць у грамадзян Польшчы іх пачуццё патрыятызму.

– Прыйшоў я ў той перыяд, калі арганізацыі патрэбныя вельмі грунтоўныя рэформы, і на гэтым сканцэнтраваная мая ўвага, – адзначыў Пётр, каментуючы сваю пасаду акадэмічнага дырэктара BISS. – Паралельна працягваю тое, чым раней займаўся: публіцыстыка, даследчыцкія праекты. Нядаўна ў Варшаве выйшла мая новая кніга “Białoruskie pytania w kontekście europejskich odpowiedzi” (па-беларуску назва гучыць: “Беларускія пытанні ў кантэксце еўрапейскіх адказаў”), былі прэзентацыі, рознага кшталту абмеркаванні.

**– Калі меркаваць з вашай біяграфіі, вы вялікую частку жыцця правялі за мяжой: выкладалі ў многіх польскіх універсітэтах, ЕГУ, знаходзіліся на стыпендыі ў ЗША. Цяпер вярнуліся ў Беларусь. Чаму вы прынялі такое рашэнне?**

– Тут два фактары. Адзін – любоў да Радзімы, вельмі моцны, але ён не заўсёды вырашальны. Другі – магчымасць прафесійнай самарэалізацыі. Заўсёды хацелася нешта рабіць для Беларусі і, у ідэальным варыянце, у Беларусі. У мяне цяпер набліжаны да ідэальнага стан.

**– Ці супалі вашыя чаканні ад цяперашняй працы на Радзіме і рэальнасць?**

– Пытанне так прагучала, нібыта я доўгі час быў па-за Беларуссю. Але ж я пастаянна быў і ў Беларусі таксама. Год жыў у Віцебску, праз нейкі час зноў туды вярнуўся, пасля жыў у Магілёве. Як мінімум тры гады майго дарослага жыцця пасля паўналецця прайшлі ў Беларусі. Складана акрэсліць, куды я прыязджаў: з Польшчы ў Беларусь ці з Беларусі ў Польшчу; аднак кантакт з Беларуссю заўсёды быў. Канечне, калі чалавек па чатыры месяцы жыве за мяжой, ён не цалкам можа адчуваць, што адбываецца ў яго краіне. У Мінску я ўпершыню такі доўгі перыяд знаходжуся. Цікавы досвед Беларусі, якая дагэтуль разгубленая ў гэтай савецка-расійскай прасторы, але настойліва шукае сваё месца. Я кажу не столькі пра дэмакратычную праеўрапейскую грамадзянскую супольнасць, колькі пра тых, хто мае ўладу. Кампанент расійскі стаў слабейшы, савецкі – па-ранейшаму моцны, але ёсць нейкія сімптомы яго пераасэнсавання. Радыкальных працэсаў не ідзе, але той, хто ўмее цаніць малое, як я, бачыць: нешта цікавае адбываецца...



Ураджэнец Гродзеншчыны, філосаф і публіцыст **Пётр Рудкоўскі** не адзін год правёў за мяжой: магістарскую адукацыю атрымаў у Ягелонскім універсітэце ў Кракаве, у Варшаўскім універсітэце абараніў кандыдацкую дысертацыю. Акрамя Беларускага Калегіума ў Мінску выкладаў у ЕГУ ў Вільні, у шэрагу польскіх універсітэтаў, ва Універсітэце Лазарскага ў Варшаве, Каледжы св. Фамы Аквінскага ў Кіеве. Пётр з’яўляецца лаўрэатам міжнародных стыпендый, а таксама польскай прэміі Льва Сапегі. У траўні гэтага года яго запрасілі на пасаду акадэмічнага дырэктара Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS). Разам з жонкай Рэгінай і маленькай дачкой Мірыям вярнуўся з Варшавы ў Мінск.

**Аляксандра Дварэцкая, “Будзьма беларусамі!”**

**Цалкам вялікую гутарку чытайце на сайце zbsb.org**

**Публікацыя зроблена ў межах ініцыятывы “Грамадскі ўдзел”, якая аб’ядноўвае розныя арганізацыі дзеля пашырэння грамадскай актыўнасці і развіцця грамадзянскай супольнасці.**

гісторыя

# КАМУ БЕЛАРУСАМІ ЗВАЦЦА, АБО ЯК З ЭМІГРАНТАЎ РАБІЛІ ВОРАГАЎ

Ліст “Не вам беларусамі звацца”, апублікаваны ў кастрычніку 1966 г. у беларускім і маскоўскім друку, быў падпісаны прозвішчамі васьмі маладых пісьменнікаў: Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Васіля Быкава, Анатоля Вярцінскага, Ніла Гілевіча, Івана Пташнікава, Барыса Сачанкі, Івана Чыгрынава.

У гэтым лісце быў пратэст супраць выказванняў пісьменнікаў-эмігрантаў у друку і на радыё “Свабода” пра тагачасную беларускую літаратуру ды выстаўляліся абвінавачанні ў калабаранцтве з фашыстамі падчас Другой сусветнай вайны і ў амерыканскім імперыялізме. *“Не называйцеся беларусамі – вы гэтага не заслужылі”* (Звязда. 15 кастрычніка 1966 г.), – гаварылася ў лісце.

У лістападзе таго ж года з’явіўся “Наш адказ”, падпісаны імёнамі эміграцыйных пісьменнікаў Кастуся Акулы, Юркі Віцьбіча, Рыгора Крушыны і Станіслава Станкевіча, дзе, сярод іншага, пісалася наступнае:

*“Артыкул гэты нас ані чуць не зьдзівіў, бо ў гарце савецкай прапагандавай кампаніі супраць беларускай палітычнай эміграцыі ў Вольным Сьвеце да падобных выступленьняў у савецкім друку, радыё ды на розных сходах мы ўжо прывыклі. Дасюль падобныя артыкулы былі звычайна або ананімныя, або падпісаныя прозьвішчамі ведамых прафэсіянальных паклёпнікаў тыпу Леаніда Прокшы й падобных, а затым мы ня бачылі патрэбы наагул рэагаваць на іх. У гэтым жа выпадку пад артыкулам стаяць прозьвішчы групы пісьменьнікаў, і то аўтарытэтных і вядучых сярод маладога літаратурнага пакаленьня, пры гэтым не абцяжараных ніякім калябаранцтвам із сталіншчынай. Затым вось уважаем за патрэбнае даць адказ на гэты артыкул.*

*Нам добра ведама, што ў савецкіх абставінах падобныя артыкулы звычайна ініцыююцца й рэдагуюцца, а нярэдка й пішуцца адпаведнымі ворганамі, а ня тымі, чые прозьвішчы пад гэтымі дакумэнтамі стаяць. Гэтак магло быць і ў выпадку з артыкулам “Ня вам Беларусамі звацца!”. Ужо тое, што артыкул спачатку зьявіўся ў органе ЦК КПБ – газэце “Зьвязда”, а толькі пасьля быў перадрукаваны з гэтае газэты – разам з уступнай зацемкай да яго – у органе пісьменьніцкай арганізацыі – газэце “Літаратура і Мастацтва”, наводзіць на думку, што ён мог быць і зрэдагаваны дзесь у ЦК партыі. Пісьменьнікам магло быць адно “запрапанавана” падпісацца пад артыкулам ды хіба перакласьці яго ў беларускую мову, бо, як добра ведама, беларуская мова ня толькі ў ЦК, але й бадай што ўва ўсіх іншых установах Беларусі, за выняткам Саюзу пісьменьнікаў БССР, ужытку ня мае. Дый у самым артыкуле знаходзім пацьверджаньне таго, што ён быў інсьпіраваны нейкімі органамі. Паміж густых радкоў артыкулу неяк прасьлізнуўся й наступны радок: “Асабліва актыўнічае, кажуць, Станіслаў Станкевіч”* (вылучана намі). *Дык хто-ж кажа? Звычайна* ***“кажуць”*** *тыя, што маюць больш інфармацыяў, у дадзеным выпадку тыя органы, што хвабрыкавалі й сам артыкул. Ды ўрэшце незалежна ад таго, дзе гэты артыкул пісаўся й кім падпісаны, у ім выказаныя перш-наперш думкі гэных органаў, пагляды партыі”.*

Ліст заканчваўся парафразаю Купалаўскага “людзьмі звацца”: *“Мы, у моц гістарычных абставінаў апынуўшыся ў вольным сьвеце, уважаем сябе за неадлучную частку ўсяго беларускага народу, дарма што ўспомнены артыкул намагаецца адмовіць нам права “Беларусамі звацца”.*

Як бачна, у пісьменнікаў-эмігрантаў не было сумневу ў сапраўдным аўтарстве ліста з бацькаўшчыны: там былі скарыстаныя ўжо вядомыя па іншых публікацыях сродкі. Сродкі па стварэнні з эмігрантаў ворагаў.

Вобраз *іншага* (вузей – *чужога*, яшчэ вузей – *ворага*) можна разглядаць як штосьці супрацьлеглае вобразу сябе, у якім прысутнічае набор характарыстык – рэальных ці ўяўных, – што і ўтвараюць, фармуюць гэты вобраз. Зразумела, гэтыя характарыстыкі залежаць ад шэрагу фактараў – тэрытарыяльна-этнаграфічных, канфесійных, этнакультурных, інфармацыйных, палітычных etc.

Якім жа быў механізм стварэння ворагаў з беларусаў-эмігрантаў у вачах метрапольнага беларуса? Бадай, тут можна казаць пра суплёт адначасна цэлага шэрагу фактараў...

**Лявон Юрэвіч, “Будзьма беларусамі!”**

**Працяг чытайце на сайце zbsb.org**

**Публікацыя зроблена ў межах ініцыятывы “Грамадскі ўдзел”, якая аб’ядноўвае розныя арганізацыі дзеля пашырэння грамадскай актыўнасці і развіцця грамадзянскай супольнасці.**

навіны

# СВЯТКАВАННЕ ЎГОДКАЎ ЯКУБА КОЛАСА Ў ЛАТВІІ

Урачыстыя мерапрыемствы, прысвечаныя 135-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа, прайшлі ў многіх гарадах Беларусі і замежжа. Не засталася ў баку і Латвія. Сувязі краін-суседзяў заўсёды былі цеснымі, тым больш, што на тэрыторыі сучаснай Латвіі пражывае вялікая колькасць беларусаў.

Першая святочная імпрэза прайшла ў Рыжскай беларускай школе, якую адчыніла дырэктар школы імя Янкі Купалы Ганна Іванэ. Тут у 2014 годзе выступаў малодшы сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч, а ўнучка Коласа Марыя Міцкевіч у тым самым годзе зладзіла выставу "Якуб Колас і Янка Маўр: разам па жыцці", якая была перададзеная ў школьны музей. Дзякуючы спрыянню саветніка-пасланніка Пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвіі – праўнука Якуба Коласа і Янкі Маўра Яраслава Міцкевіча – для той выставы былі зроблены спецыяльныя стэнды.

Святочная імпрэза не абышлася без падарункаў і гэтым разам таксама. Марыя Міцкевіч перадала школе кнігі беларускіх пісьменнікаў ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і ад сям'і Якуба Коласа.

На мерапрыемстве прысутнічалі настаўнікі і вучні школы, супрацоўнікі Пасольства Беларусі ў Латвіі, а таксама прадстаўнікі беларускай дыяспары, сярод якіх адзначым мастака Вячку Целеша і ўнучку вядомага дзеяча беларускай культуры Латвіі, аўтара этнаграфічнай працы "Народная творчасць Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў" Сяргея Сахарава – Нону Ахметулаеву.

Марыя Міцкевіч падрыхтавала прэзентацыі "Якуб Колас – жыццё і творчасць" і "Якуб Колас і Латвія". Падчас чытання вершаў Якуба Коласа гучала цудоўнае музычнае суправаджэнне на беларускіх цымбалах у выкананні Марыі Кучынскай.


Марыя Міцкевіч і Мікола Паўловіч ў Беларускім цэнтры Даўгапілса.

Прысутныя з цікаўнасцю ўспрынялі матэрыялы, якія адлюстроўвалі сувязь Якуба Коласа з вядомымі літаратарамі Латвіі Янам Райнісам і Андрэйсам Упітам, а ўнучка Сяргея Сахарава з асаблівай чуллівасцю слухала інфармацыю пра лісты свайго дзеда да Якуба Коласа, якія захоўваюцца ў фондах Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.

Другая святочная імпрэза прайшла ў Даўгаўпілскім цэнтры беларускай культуры, дзе сабраліся сябры таварыства "Уздым". На вечарыне прысутнічалі першы сакратар Пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвіі Аляксей Васількоў і консул Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе Антаніна Струнеўская.

Асаблівую цікавасць ва ўдзельнікаў вечарыны выклікала інфармацыя пра тое, што адзін з твораў Якуба Коласа быў напісаны ў іх горадзе – вершаванае апавяданне "Пад Новы год". У захапленні прысутныя былі таксама і ад цудоўнай музыкі беларускай цымбалісткі Марыі Кучынскай, якая выконвала знаёмыя і любімыя творы – "Мой родны кут", "Купалінка", "Перапёлачка" ды інш.

Гаспадары Беларускага цэнтра і таварыства "Уздым", якое ўзначальвае Людміла Сінякова, актыўна ўдзельнічалі ў святочным мерапрыемстве: паэт Станіслаў Валодзька чытаў свае вершы, прысвечаныя Якубу Коласу, Галіна Сантоцкая прачытала ўрывак з "Новай зямлі". У музычнай частцы выступіў ансамбль "Пралескі" і Анастасія Малышава. Гісторыкам і краязнаўцам Міколам Паўловічам была падрыхтаваная выстава да ўгодкаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Дарэчы, Мікола Паўловіч перадаў для музея Янкі Купалы ў Мінску партсігар з партрэтам Янкі Купалы, а для музея Якуба Коласа – адбіткі старонак часопіса Дзвінскай беларускай гімназіі "Школьная праца", 1926 і 1927 гг., прысвечаных Якубу Коласу.

Спадзяемся, што з дапамогай беларусаў замежжа будуць знойдзены і іншыя матэрыялы, прысвечаныя славутаму паэту.

**Васіліна Міцкевіч,**
**праўнучка Якуба Коласа**

# У ЦЭНТРЫ ВІЛЬНІ ЎСТАЛЯВАЛІ МЕМАРЫЯЛЬНУЮ ДОШКУ ЯКУБУ КОЛАСУ

9 лістапада ў Вільні адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі народнаму паэту Беларусі Якубу Коласу.

Дошка ўсталявана на будынку Вільнюскага тэхнічнага ўніверсітэта імя Гедымінаса. Менавіта ў гэтым месцы ў 1907 годзе знаходзілася рэдакцыя першай беларускай газеты "Наша ніва", дзе загадчыкам літаратурным аддзелам працаваў Якуб Колас.

Пачынаючы з 1906 года, жыццё і творчасць Якуба Коласа былі цесна звязаны з Вільняй. Тут ён надрукаваў свой першы верш "Наш родны край" і выпусціў першы зборнік вершаў "Песні-жальбы". Дзве часткі паэмы "Новая зямля" – "Дзядзька ў Вільні" і "На Замкавай гары" – цалкам прысвечаны Вільні.

Маюцца дакументы, якія сведчаць пра творчыя кантакты Коласа з такімі пісьменнікамі Літвы, як А. Жукаўскас, В. Пранцкус-Жылёніс, Ф. Вайшнорыс, Л. Гіра, В. Мікалайціс-Пуцінас, А. Венцлава і іншыя. У прыгарадзе Вільні жыла яго будучая жонка М. Каменская.



З прывітальнымі словамі падчас мерапрыемства выступілі Пасол Беларусі ў Літве А. Кароль, старшыня Камітэта муніцыпальнага развіцця Вільнюскага гарадскога самакіравання Р. Бальчунене, прарэктар па акадэмічнай інтэграцыі і развіццю Вільнюскага тэхнічнага ўніверсітэта імя Гедымінаса А. Лаўрынавічус, дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Я. Коласа З. Камароўская, настаўніца віленскай гімназіі імя Скарыны А. Базюк.

На цырымоніі прысутнічалі прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў, Дэпартамента нацыянальных меншасцей пры Міністэрстве культуры, паслы Малдовы, Польшчы, Расіі, Фінляндыі, Чэхіі, іншыя дыпламаты, а таксама прадстаўнікі беларускай грамадскасці і сродкаў масавай інфармацыі.

**Паводле прэс-службы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы**



**навіны**

# 135-ГОДДЗЕ ЯКУБА КОЛАСА АДЗНАЧЫЛІ Ў ВАРШАВЕ

Інтэлектуальнай гульнёй Jakub Quiz беларусы Варшавы сустрэлі юбілей народнага паэта.

Інтэлектуальная гульня складалася з некалькіх тураў, адзін з якіх цалкам быў прысвечаны жыццю і творчасці беларускага класіка. Гаворыць арганізатар гульні, Аляксандр Лапко: “Вельмі шмат беларусаў ходзяць на розныя інтэлектуальныя гульні, якія мы праводзім . Я падумаў больш згуртаваць беларусаў на нацыянальнай глебе, на мове, на пытаннях, прысвечаных Беларусі, беларушчыне”.

Тацццяна: “Сёння гульня ў беларускім фармаце была ўпершыню. Адразу бачна, што гульня адрозніваецца ад таго, да чаго мы прызвычаіліся. Было вельмі шмат беларусаў і гэта вельмі радуе, што людзі за мяжой аб’ядноўваюцца”.

Павел Чыж: “Першы тур быў вельмі цікавым, мультымедыйным. Былі песні і трэба было адгадаць аўтара слоў: Максім Багдановіч, Янка Купала, Генадзь Бураўкін. Канешне, выдатныя аўтары”.

Падчас Jakub Quiz-у было сабрана 400 рублёў, якія пойдуць на стварэнне помніка Тадэвушу Касцюшку ў Мерачоўшчыне.

**Эдуард Жолуд,**
**“Беларускае Радыё Рацыя”**





## У МІНСКУ АДЗНАЧЫЛІ 135-ГОДДЗЕ ЯКУБА КОЛАСА

135-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа адзначылі ў Мінску шэрагам мерапрыемстваў, у тым ліку і ўскладаннем кветак да помніка народнаму паэту.

Гаворыць малодшы сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч: “Самае ж галоўнае не тое, што прыйдуць да помніка. Трэба, каб людзі чыталі, успаміналі. Самае важнае, канешне, каб школьнікі чыталі і на памяць шмат вучылі. На жаль вялікі, “мудрацы” з Міністэрства адукацыі знялі са школьнай праграмы “Сымона-музыку” і купалаўскі найвыдатнейшы драматычны твор “Тутэйшыя”.

Першымі да помніка пад гукі вайсковага аркестра ўсклалі кветкі нашчадкі Якуба Коласа, прадстаўнікі афіцыйных уладаў, дыпламатычнага корпусу, кіраўнікі ўстаноў культуры.

**Максім Каўняровіч, “Беларускае Радыё Рацыя”**

## У НЬЮ-ЁРКУ ПРЭЗЕНТАВАЛІ АЛЬМАНАХ “БЕЛАРУС”-2017

Сёлета споўнілася 10 гадоў з дня першага выпуску альманаху “Беларус”. Гэтае выданне сталася самым аб’ёмным. Яго прэзентацыя прайшла 4 лістапада ў Нью-Ёрку.

У альманах 2017 года ўвайшлі творы беларусаў з 14 краін свету, шасцёра з якіх выступілі на прэзентацыі. Сярод аўтараў традыцыйна – як тыя, хто стала ўдзельнічаюць так і пачаткоўцы.

Адкрыццём стаў Алесь Хацкевіч і ягоная казка “Замак на гары”.

**Віктар Дудараў, “Новы Час”**






## БЕЛАРУСКІЯ ДЫПЛАМАТЫ ЎПАРАДКАВАЛІ МЕСЦЫ ПАХАВАННЯ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ НА БРУДНОЎСКІХ МОГІЛКАХ ВАРШАВЫ

31 кастрычніка беларускія дыпламаты ўпарадкавалі месцы пахавання савецкіх воінаў на Брудноўскіх могілках Варшавы. 279 савецкіх салдат і афіцэраў Першага Беларускага фронту, якія загінулі ў баях за вызваленне Варшавы, пахаваны ў 13 брацкіх і 28 індывідуальных магілах.

Беларускае пасольства даглядае за пахаваннем з 2015 года.

**Centrum Kulturalne Białorusi w Warszawie**

навіны

# КАЛЕНДАРЫ АД “БУДЗЬМЫ!” І “БАЦЬКАЎШЧЫНЫ”

Каляндар “Не маўчы па-беларуску – 2018” можна набыць у наступных крамах:

**У Мінску:**

- “Акадэмкніга”, пр-т Незалежнасці, 72;
- “Кнігарня пісьменніка”, вул. Казлова, 2;
- “Веды”, вул. К.Маркса, 36;
- “Цэнтральная кнігарня”, пр-т Незалежнасці, 19;
- “Кнігі&кніжачкі”, пр-т Незалежнасці, 14;
- “Эўрыка”, вул. Куйбышава, 75;
- “Рагна”, вул. Сухая, 4 / вул. Караля, 22;
- “Светач”, пр-т Пераможцаў, 11;
- “Галіяфы”, вул. Няміга 3, павільён 66;
- ІП Алесь Дудар;
- “Мой модны кут”, пр-т Незалежнасці, 58, пав.333;
- “Рыжы кот”, вул. Сурганава, 50, пав. 72;
- У інтэрнэт-крамах hareza.by, imbryk.by, knihi.by, sunduchok-knig.by і symbal.by (дастаўка па ўсім свеце).

**Бабруйск:** “Крыніца ведаў”, вул. М. Горкага, 31.

**Брэст:** Крама “Князь Вітаўт”, вул. Савецкая, 55.

**Віцебск:** Кнігарня “Светач”, вул. Кірава, 10.

**Гародня:**

- “Цудоўня” (вул. Вялікая Траецкая, 16),
- “Бэбі Бук” (ГД “Нёман”, 2 пав., вул. Савецкая, 18).

**Магілёў:** “Маліндзі бай”, вул. Яцына, д.5, оф. 3.

У Берасці, Гародні, Гомелі, Віцебску, Пінску, Полацку, Наваполацку, Лідзе, Барысаве, Маладзечна – у кнігарнях ААТ “Белкніга”.

Каляндар “Адрасы БНР. 1918–2018” можна набыць у кнігарні “Акадэмкніга” (Мінск, пр-т Незалежнасці, 72); “Князь Вітаўт” (Брэст, вул. Савецкая, 55 і Віцебск, вул. Фрунзэ, 8), “Цудоўня” (Гродна, вул. Вялікая Траецкая, 14).

У інтэрнэце календары можна замовіць у крамах knihi.by і imbryk.by.







## СМУТКУЕМ З НАГОДЫ СМЕРЦІ ІРЫНЫ КАПЧЫНСКАЙ

Пайшла з жыцця Ірына Капчынская – старшыня Камітэта Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Расіі па захаванні і папулярызацыі нацыянальнай культуры беларусаў, сябра Рады Рэгіянальнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі “Беларусы Масквы”, стваральніца і нязменная кіраўніца беларускага фальклорнага



ансамбля “Кірмаш”.

Спадарыня Ірына Капчынская была вялікім экспертам па беларускай этнічнай музыцы, валодала вялікім архівам фальклорных матэрыялаў і стварыла ўнікальную аўтарскую калекцыю беларускіх касцюмаў. Шмат выступала – за дваццацігадовую гісторыю ансамбль “Кірмаш” сотні разоў быў узнагароджаны дыпломамі, граматамі і падзякамі. Апошнім часам Ірына Капчынская рапрацоўвала праекты па вывучэнні і папулярызацыі беларускай культуры ў шэрагу гуманітарных вышэйшых навучальных установах Расіі.

За вялікую працу па захаванні і папулярызацыі культурнай спадчыны беларусаў у Расіі Ірына Капчынская была ўшанаваная дзяржаўнай узнагародай Беларусі – медалём Францыска Скарыны.

Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім Ірыны Германаўны.

**Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**

## СМУТКУЕМ З НАГОДЫ СМЕРЦІ АДЫ ВЯРЦІНСКАЙ

28 лістапада адышла ў лепшы свет Ада Вярцінская, выкладчыца, заслужаны педагог Рэспублікі Беларусь.

Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні сябру Рады Анатолю Вярцінскаму, а таксама ўсім родным і блізкім Ады Сямёнаўны.

**Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**



## Беларускі каляндар памятных дат на снежань 2017 года

4 снежня – 80 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Іпаліт Поляк, грамадскі дзеяч, педагог.

4 снежня – 45 гадоў таму, у 1972-м, памёр Мікалай Аладаў, кампазітар.

4 снежня – 35 гадоў таму, у 1982-м, памёр Аркадзь Качан, грамадскі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

8 снежня – 80 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Ігнат Дварчанін, грамадска-культурны дзеяч, літаратуразнавец, паэт, педагог.

8 снежня – 80 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Язэп Гаўрылік, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху, настаўнік.

8 снежня – 80 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Антон Грыневіч, збіральнік музычнага фальклору, выдавец, педагог, кампазітар.

10 снежня – 165 гадоў таму, у 1852-м, нарадзіўся Вандалін Шукевіч, археолаг, этнограф, калекцыянер.

11 снежня – 15 гадоў таму, у 2002-м, памёр Сяргей Грахоўскі, пісьменнік.

18 снежня – 100 гадоў таму, у 1917-м, у Мінску пачаўся Першы Усебеларускі кангрэс.

19 снежня – 25 гадоў таму, у 1992-м, у Мінску пачаўся Першы сход беларусаў блізкага замежжа.

20 снежня – 80 гадоў таму, у 1937-м, расстраляныя Васіль Дружчыц (Друшчыц), гісторык; Сцяпан Некрашэвіч, мовазнавец, грамадскі дзеяч; Міхаіл Піятуховіч, літаратуразнавец, педагог.

22 снежня – 80 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Янка Вярсоцкі, рымска-каталіцкі святар, грамадскі дзеяч.

24 снежня – 75 гадоў таму, у 1942-м, памёр Вінцэнт Гадлеўскі, рымска-каталіцкі святар, адзін з кіраўнікоў беларускага нацыянальнага Супраціўлення, ідэолаг нацыянальнага руху.

25 снежня – Каляды (Божае Нараджэнне) паводле грыгарыянскага календара.

25 снежня – 145 гадоў таму, у 1872-м, памёр Вацлаў Пшыбыльскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1836–1864 гг., літаратар.

26 снежня – 80 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Мікалай Каспяровіч, краязнавец, мастацтвазнавец, літаратуразнавец.

26 снежня – 80 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Антук Крыніца (сапр. Антон Ждановіч), акцёр.

26 снежня – 60 гадоў таму, у 1957-м, памёр Юры Сабалеўскі, палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

27 снежня – 170 гадоў таму, у 1847-м, нарадзіўся Якуб Наркевіч-Ёдка, прыродазнавец, вынаходнік, медык.

29 снежня – 125 гадоў таму, у 1892-м, памёр Фелікс Тапчэўскі, паэт, публіцыст.

30 снежня – 80 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Аляксандр Цвікевіч, палітычны дзеяч, гісторык, філосаф, публіцыст.

31 снежня – 215 гадоў таму, у 1802-м, нарадзіўся Максіміліян Рыла, філосаф, археолаг, каталіцкі місіянер на Блізкім Усходзе і ў Афрыцы.

**Беларусы ў свеце**
No 11 (186), лістапад 2017
Інфармацыйны бюлетэнь МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі. Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27